Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Цана асобнага нум. 40 грошы.

# Беларуская Борць

Адрас Рэдакцыі
і адміністрацыі:
Вільня,
Каралеўская вул. 3—8.

Рэдакцыя адчынена
ў аўторкі і пятніцы
ад 10 да 14 гадз.

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:
на год . . . . . . . . 2 зл.,
на паўгоду . . . . 1 „
Заграніцу — удвая даражэй.
Цана абвестак поводле ўмовы.

№ 4

1937 г.

## ЗЬМЕСТ:

# Беларуская Борць

№ 4 ЛІПЕНЬ 1937 г. ГОД IV

## Шляхам самапомачы

Цяжкое становішча безработнага. Адчувае гэта і наш беларускі інтэлігэнт, які, страціўшы надзею знайсьці сабе працу паводле сваей фаховай адукацыі, бывае задаволены, бывае нават шчасьлівы, калі можа зарабіць на кавалак хлеба хоць якой небудзь працай. Адчувае безрабоцьце і беларускі селянін, які не знаходзіць для сябе працы на вузкіх радзімых палетках. У часы добрае гаспадарчае коньюнктуры надмер рабочых рук вёскі выяжджаў на заработкі ў горад ці іншыя прамысловыя цэнтры, дзе лёгка можна было знайсьці сабе працу. Зараз-жа гэты спосаб вырашаньня пытаньня безрабоцьця вёскі адпадае. Тыя, што адважваюцца кінуць родную хату і ехаць шукаць работы ў горадзе, звычайна або падзяляюць лёс безработнага пралетарыяту гораду, або бываюць бяз літасьці вызысківаны праз розных дабрадзеяў, якія пры гэтым яшчэ лічаць, што робяць гэтым ласку.

Усе мерапрыемствы па барацьбе з безрабоцьцем датычацца больш безрабоцьця гораду, а вёска ў гэтым пытаньні стаіць, як заўсёды, на другім пляне.

Спадзявацца на што небудзь рашучае, што магло-б папправіць палажэньне вёскі, як напр. адпаведную зямельную рэформу, пакуль што ня прыходзіцца.

Сялянскія масы ў сваім гаспадарча-грамадзкім жыцьці, у справах сваей культуры і асьветы былі заўсёды кіраваныя праз прадстаўнікоў заможнай клясы, якія вельмі часта мала, а часам нават і зусім ня былі знаёмыя з вясковым жыцьцём, з яго жыцьцёвымі і культурнымі патрэбамі. Кіраваліся яны ў гэтых справах сваімі асабістымі, або клясавымі паглядамі, але не патрэбамі кіраванага імі насельніцтва. Нават тыя з іх, якія былі бліжэй азнаёмленыя з вясковым жыцьцём, пахадзілі звычайна з абшарніцкага ці асадніцкага асяродзішча, інтарэсы якіх знаходзяцца ў поўнай супярэчнасьці з інтарэсамі вясковай сялянскай масы.

У гэтакім палажэньні паправа быту нашага сялянства а разам і нашай інтэлігенцыі магчыма будзе толькі тады, калі справай гэтай больш будуць займацца тыя, каго яна бліжэй датычыцца, інакш кажучы, калі яна будзе весьціся шляхам самапомачы.

Гэты шлях паказвае нам коопэрацыя.

Коорэрацыя, па сваёй ідэолёгіі, як свае канцовае заданьне, мае на мэце перабудову існуючага капіталістычнага ладу на такі, які-б забясьпечыў усім права на працу, магчымасьць жыць і разьвіваць свае асабістыя і творчыя здольнасьці, такога ладу, пры якім творчая дзейнасьць чалавецтва была-б скіраваная не на зыск паасобных адзінак, а на дабро, на карысьць агулу.

Для нас беларусаў ідэі коопэрацыі не зьяўляюцца чужымі. У яе бок ужо шмат разоў кіраваліся думкі нашага грамадзянства. У розных мяйсцох больш сьвядомыя адзінкі распачыналі працу, але пакуль што вынікамі пахваліцца ня можна. Праўда, коопэратыўны рух на нашых землях узмацоўваецца і разьвіваецца, што сцьвярджаюць і адпаведныя дзейнікі, але ня носіць ён яшчэ таго масавага характару, пры якім толькі і можа даць добрыя, дадатнія вынікі, бо Коопэрацыя гэта ня ёсьць рух адзінак, гэта рух масы, якая імкнецца паправіць у меру магчымасьці сваё палажэньне.

У сучасны мамэнт агульнага безработцьця гэты рух павінен асабліва разьвіцца. Галоўным заданьнем сьвядомых адзінак павінна быць падгатоўка шырокіх мас нашага грамадзянства да паступовага пераходу на коопэратыўныя формы вядзеньня гаспадаркі.

Коопэратыўнае ўзгадаваньне масаў гэта першае заданьне ў справе змаганьня з безработцьцем шляхам самапомачы.

Коопэрацыя мае для нас вялікае значэньне яшчэ і дзеля таго, што зьяўляецца яна адзінаю школаю грамадзкага ўзгадаваньня, бо прывучае людзей да працы, скіраванай на дабро ўсяго грамадзянства, узгадоўвае чалавека-грамадзяніна, які інтарэсы і карысьці агулу ставіць вышэй сваіх уласных.

Гэты ўзгадаваўчы бок коопэрацыі будзе можа нават важнейшым у парушанай справе, чым карысьці чыста гаспадарчыя.

*М. Манцэвіч.*




# Зьмена старых матак

Пчаліныя маткі пад старасьць становяцца менш плоднымі, або зусім перастаюць чарвіць. Сем'і са старымі маткамі бываюць слабыя, а праз гэта і мёду менш даюць. Часам пчолы самі ў летку забіваюць старую матку ды выгадоўваюць сабе маладую. Але сьвядомы пчаляр на гэта не павінен спадзявацца, а сам мусіць зьмяняць маткі. Матку трэба зьмяняць праз тры гады яе жыцьця. Найлепшая для гэтага пара будзе ў летку, падчас галоўнага медабраньня. Робіцца гэтак. Ад сільнае ці нават сярэдняе сям'і забіраецца старая матка. На другі дзень пчолы закладаюць матачнікі. Як матачнікі ўжо будуць запячатаны, адзін з большых астаўляецца, а рэшта вырэзваецца ды даецца па аднаму ў тыя вульлі, дзе ёсьць старыя маткі. Матачнікі з кавалачкам вашчыны, дзяцьмі трэба ўправіць у гнёздавыя рамкі ды ўставіць у сярэдзіну гнязда. Старыя-ж маткі за гадзіны 2—3 перад устаўляньнем матачнікаў трэба з вульлёў забраць. Адразу пчолы бяз маткі крыху пабунтуюцца, а пасьля, як убачаць матачнік, супакояцца ды пачнуць працаваць нармальна.

Пчолы з устаўленных матачнікаў выгадуюць сабе маладыя маткі,

Такім чынам з матачнікаў аднаго вульля можна выгадаваць маладыя маткі ў замен старых для іншых вульлёў.

Выгада такога спосабу відавочна: як тая сям'я, ад якой забралі старую матку, так і тыя сем'і, у якія устаўлялі матачнікі, зьбяруць больш меду, бо ў працягу трохчатырох тыдняў ня будуць гадаваць чарвы.

*Вільпчол.*

---

# ДБАЙМА АБ ЯКАСЬЦЬ МЁДУ

Толькі на добры, сьпелы і чысты мёд можам знайсьці добрага купца і атрымаць адпаведна высокую цану. Дзеля гэтага трэба помніць, што;

1) Толькі мёд з чыстай, сьветлай вашчыны будзе мець добры колер, пах і смак. З старой, брудпай напэўна нацягне цёмнага колеру і кіславатага смаку,

2. Выбіраць мёд з вульля можна толькі тады, калі палавіна, а найменш 1/3 часьць мёду ў рамцы будзе запячатаная,

Калі-б хто змушаны быў выбраць з вульля мёд ня зусім сьпелы, то павінен яго высьпеліць, разьліваючы ў шырокую і плоскую пасудзіну. якая, пакрытая драцянай сеткай, ставіцца на сонцы. Праз пару дзён лішняя вада выпарыцца і мёд згусьцее.

3) Вытрасаць мёд трэба ў чыстым памяшчэньні, маючы рукі і ўсе прылады дакладна чыстыя.

Мёд мусіць быць абавязкава працэджаны праз густое драцянае сіта. — Трэба сьцерагчыся, каб ня вытрасаць мёду з рамак з пяргой і чарвой. Пярга і чарва, трападаючы ў мёд, псуюць значпа яго добры смак.

4) Усялякая пасудзіна на мёд: бочкі, ліпаўкі, скрынкі і г, д. мусяць быць ідэальна чыстыя і мець добры, прыгожы выгляд.

Найлепшы мёд у брудпай, закарэлай звонку пасудзіне ня можа зрабіць добрага ўражаньня.

5) Перахоўваць мёд трэба ў сухіх і чыстых памяшчэньнях. У вільготных нацягне вады, у брудных набярэ нядобрага паху. Асабліва трэба сьцерагчыся, каб ня трымаць мёду блізка газы, цыбулі, селядцоў і іншых прадуктаў з вострымі запахамі.

*Л. В—а.*

---

# ЗМАГАНЬНЕ З ТРУТНЯМІ

Некаторыя пчолы ўвосені і ўлетку шмат гадуюць трутняў ды гэтым самым аслабляюць і самыя сем'і і менш даюць мёду. Таксама даволі часта пчолы перарабляюць пчаліную або штучную вашчыну на трутнёвую ды матка кладзе туды трутнёвыя ячэйкі. У гэтакіх выпадках бывае трудна змагацца з трутнямі. Але трэба, бо, калі нічога не рабіць, то будзе горш. Перадусім трэба старацца, каб у гнязло не пападалі рамкі з трутнёваю вашчынаю. Далей, калі пчолы перарабляюць пчаліную вашчыну на трутнёвую, ды матка кладзе туды трутнёвыя яечкі, то трэба час-ад-часу пераглядаць гнязло ды вострым нажом зрэзваць запячатаныя трутнёвыя чарачкі, або, калі яшчэ не запячатаныя, то спрыскаць халоднаю або

крыху пасоленаю вадою. Як у першым выпадку, так і ў другім пчолы зараз-жа ачысьцяць гэтыя чарачкі. А тады, каб матка ізноў не клала туды трутнёвых яек, гэтыя рамкі трэба пераставіць на край гнязда, або зусім дастаць з вульля. Калі-ж бы пчаляр спазьніўся з вырэзваньнем ды ў вульлі было ўжо шмат трутняў, то трэба ў паўдня ці крыху пазьней падстаўляць на вылет спэцыяльную лавушку на трутні, або проста ў гэтыя-ж гадзіны пасядзець каля вылетаў ды падушыць на прылётнай дошцы трутняў.

*Вільпчол.*

АД РЭДАКЦЫІ:

Досьледы вучоных пчаляроў паказалі, што суцэльнае вынішчываньне трутняў не зьяўляецца рацыянальным. Пчолы, маючы ў вульлі 2—3 дзесяткі трутняў працуюць больш інтэнсыўна. Прысутнасьць трутняў памагае ўтрымаць у вульлі неабходнае, аднастайнае цяпло тым больш, што трутні, як шмат большыя, выдзяляюць найменш 2 град. цяпла балей, чым пчолы-работніцы. А падчас халодных начэй, абсядаючы крайнія рамкі, твораць як-бы засланку ад холаду.

# ПЧАЛІНАЯ ТРУТНЁЎКА

Хіба ня трэба шмат гаварыць аб тым, якой бяды могуць нарабіць трутні пчалінай трутнёўкі; злучыўшыся з нармальнымі маткамі—з гэтага выйдуць блохі, але ня пчолы ці маткі. Дзеля гэтага нельга пушчаць жывым ніводнага трута ад маткі трутнёўкі, а таксама *ад благіх сем'яў.* Калі сям'я згубіць сваю натуральную матку, трэба зараз жа даць ей новую, калі маткі няма, дык даць яечкі ці маладую чарву і пчолы самі вывядуць сабе матку, але даваць яечкі ці чарву можна толькі тады, калі на пчальніку ёсьць трутні. Калі-ж трутняў няма, дык бязматачнік трэба далучыць да другой сям'і з маткай, бо сям'я бязматачная, пабыўшы доўга сіротамі створыць сабе матку трутнёўку, з якой змагацца цяжка. Пчалінай трутнёўкі ня вывядзеш нейкімі хітрымі спосабамі, бо іх у вульлі ёсьць не адна а некалькі. У мяне было такое здарэньне Я быў на рабоце і не заўважыў, калі пчолы асталіся сіротамі і завялася трутнёўка. Я стараўся ўсімі *спосабамі* яе зьнішчыць і ўсё дарма; зьмяніў гняздо, даў добрую чарву і дзетку, а пчолы ня вывялі сабе маткі, а толькі паяўляліся трутні, ад новай ужо трутнёўкі. Тады я зрабіў наступнае. На месца вульля з трутнёўкай, паставіў вульлей з добрай сям'ёй, а вульлей з трутнёўкай на яго месца і даў у вульлей з трутнёўкай маладой чарвы з таго вульля, на 'якога месца я яго паставіў. Пчолы з добрае сям'і адразу заўважылі непарадкі; з трутнёўкамі разьлічыліся па свойму, а на сваей уласнай рамцы залажылі матачнікі. Ад гэткіх маніпуляцыяў сем'і праўда аслабелі крыху, але былі выратаваныя.

*Піліп Карпенюк.*

**Бязупынна думай аб будучыні: сей і садзі медадаі, якія дадуць пажытак пчолам на наступны год!**

# Зелярства

## У справе вынішчаньня дзеразы.

Дзераза (Licopodium clavatum) гэта адзін з найстарэйшых прадстаўнікоў нашых расьлін.

Расьце выключна ў лясох хваёвых, сьцябло мае даўгое, паўзучае, густа пакрытае дробненькімі лісточкамі, а з нізу прымацаванае да зямлі маленькімі карэньчыкамі. Некатарыя галінкі сьцябла падымаюцца ў гару і маюць на канцы адзін або два каласкі з масай дробненькіх зярліц.

З гэтых каласкоў сабраных у другой палове лета і высушаных у зачыненым памешканьні высыпаецца дробненькі і вельмі лёгкі жоўты парашок, добра хіба знаны жыхаром нашага краю, якія зьбіраюць яго дзеля прадажы.

Парашок дзеразы па даволі высокай цане купляюць аптэкі і зелярскія гуртоўні. Але шмат большае запатрабаваньне мае гэты парашок у ваеннай прамысловасьці, дзе ўжываецца да высыпаньня формаў пры адліваньні гарматніх куляў.

Высокая цана і вялікае запатрабаваньне заахвочывае сялян да зьбіраньня парашку дзеразы. У гэтым ня было-б разумеецца нічога благога, калі-б збор правадзіўся разумна і ня нішчыў расьліны. Трэба ведаць, што дзераза размнажаецца вельмі памалу, часта мінае некалькі гадоў пакуль з драбнюсенькай зёрлы (споры) дзеразы вырасьце новая, здольная да далейшага размнажаньня расьліна, а значыцца *маладыя расьліны не пасьпяваюць замяніць старых, знішчаных зьбірачамі.*

І так зьбірачы, *вырываючы і нішчучы дарослую дзеразу самі сабе робяць шкоду, даводзячы да яе зьнішчаньня.*

Як зьбіраць, каб ня нішчыць?

*Ня трэба каласкоў вырываць* (пры гэтым расліна падрываецца і сохне), *а зрэзываць;* далей *ня трэба зрэзываць усіх каласкоў, а дзе нядзе аставіць дзеля далейшага размнажэньня.*

Але галоўным варункам забясьпечываючым далейшае размнажаньне дзеразы, будзе закопываньне ў лесе, у адпаведных мясцох *вытрасеных* ужо каласкоў.

Напэўна астаецца ў іх пэуная, хоць маленькая колькасьць зёрлаў, якія прарастуць і дадуць пачатак новым, маладым расьлінкам дзеразы.

Трэба дадаць, што вельмі спрыяе нішчэньню дзеразы існуючы ў нас звычай прыбіраньня ею хатаў і сталоў на Вялікдзень.

Асабліва ў местах ў перадсьвяточным часе на рынку бачым цэлыя вазы гэтай, зелёнай у кожную пару году, расьліны.

Адны яе зьбіраюць, другія купляюць, ня думаючы і ня ведаючы, якую робяць гэтым шкоду.

Неабходна, дзеля сваей уласнай карысьці сьцерагчы і бараніць дзеразу перад зьніштажэньнем.

*Л. В.*

# ХАТНЯЕ ЛЯЧЭНЬНЕ ЗЁЛКАМІ

Кожная жанчына, якая дбае аб сваю сям'ю, павінна помніць, як важна мець у хаце аптэчку з рознымі зёлкамі. Вартасьць зёлак у нас наагул недацэніваецца,а нельга забывацца, што зёлкі становяць падставу, як лякарстваў, так і розных касмэтыкаў. Варта адзначыць, што шмат задаўнеўшых хвароб, якія не паддаваліся зусім лячэньню хэмікаліямі, грунтоўна вылечваліся зёлкамі.

Бяручы гэта пад увагу, кожная жанчына мусіць прыдбаць цяпер і прыгатаваць на зіму запас зёлак, каб пасьля замест плаціць у аптэцы за пушачку гэтых самых зёлак некалькі залатовак, мець свае дарма.

Трэба толькі ведаць, якія зёлкі пры якой хваробе ўжываць. У цэлым радзе артыкулаў пастараюся даць парады, як і калі ўжываць зёлкі ў хатняй практыцы.

Пачну ад Centaurium umbelatum-Erythraea centaurium — Сардэчнік (цынтурыя). Расьліна двухгадовая, у нас часта спатыканая, расьце па межах, зарасьлях і сухіх лугах. Належыць да сям'і гарычкаватых. Gentianaceae. Вышыня 40 цм. Лісьцё голае, эліптычнае формы, супроцьлежнае. Кветкі ружовыя, дробныя, пяціпялёсткавыя, сабраныя ў паўпарасонікі. Цьвіце ў ліпні і жніўні. Смак расьліны гаркі.

Ужываецца пры благім апэтыце і іншых недамаганьнях органаў траўленьня. Гарбатняя лыжачка зёлак запарываецца паўшклянкай вару і выпіваецца за паўгадзіны перад ядой. П'юць тры разы ў дзень.

*Мгр. Г. Алексеюк.*

Ад рэдакцыі. Цэнтурыя разсяваецца вельмі трудна і дакладна вырваная у дадзеным мейсцы прападае бязследна. Хочучы яе усьцерагчы ад загубы, трэба дзеня-дзе пакінуць па адней расьлінцы на завод.

---

# СПІСАК ЗЁЛАК НА ЯКІЯ ЁСЬЦЬ ЗАПАТРАБАВАНЬНЕ

ЯГАДЫ: Ялаўцу, Чарніцы, Маліны.

КАРА: Крушыны, Дубовая.

КВЕТКІ: Арнікі (Буквіцы), Румянку, Белай Крапівы (Шанты) Ліпы. Братачкаў.

ЛІСЬЦЁ: Падбелу. Мяты. Бабкі. Бабоўніку. Мачанічніку.

НАСЕНЬНЕ: Кмену.

ЗЕЛЬЛЕ: Цынтурыі (Сардэчніку). Загартушкі Блёкату. Падарожніку. Хвашчу.

КАРЭНЬНЕ: Аеру. Арнікі (Буквіцы). Жывакосьніку. Пыраю. Паньчошніку (Сабачае мыла). Малачаю. Валерыяны.

СПАРЫНЕЦ.

ПЫЛОК.

ДЗЕРАЗЫ.

Усе гуртоўні патрабуюць ў вялікіх колкасьцях, але Т-ва „Пчала“ прыймае на коміс і малыя колькасьці, гуртуючы тавар у сябе дзеля далейшай прадажы.

Ар'ентацыйныя цэны былі пададзены ў папярэдніх №№ Борці. Аканьчальная цана залежыць ад якасьці тавару, дзеля гэтага можа быць азначана толькі пасьля атрыманьня пробкі. Прыпамінаем, што пробка мусіць важыць ня меньш чым 100 грамаў!

# Садоўніцтва і агародніцтва

## Чарвівасьць яблыкаў і йгрушаў.

Чарвівасьць яблыкаў і йгрушаў здараецца ў нас вельмі часта. Выклікаюць яе вусеніцы *яблычнай пладоўкі* (*Laspeyresia potonella L.*). Яблычная пладоўка, гэта невялічкі шэры матылёк. Яго самка кладзе ячкі на яблыках ці йгрушах, па аднаму ячку на кожным яблыку. Вылупіўшыся па нейкіх 12 днях з ячка вусеніца ўгрызаецца ў нутро яблыка, робячы ў ім хады. Яны асабліва любяць зерняткі пладоў і калі ўжо выядуць сярэдзіну аднаго яблыка ці йгрушы, пераходзяць тады да другога, трэцяга і гэтак далей. Пашкоджаныя так плады ападаюць, звычайна яшчэ недасьпеўшы, і толькі рэдка дасьпяваюць на дрэвах.

Матылькі яблычнай пладоўкі лётаюць у траўні і чэрвені, і тады якраз складаюць ячкі. Вусенічкі гэтага гатунку разьвіваюцца даволі неакуратна, бо часьць з іх пакідае яблыні і пачынае рабіць вопрадні ўжо ў палавіне ліпня, а іншыя жывуць далей у яблыках аж да позняй восені. І гэтыя якраз вусеніцы пэратвараюцца ў пачваркі ўжо ў мейсцы, дзе перахоўваюць яблыкі ці йгрушы на зіму.

Аднакжа большасьць вусеніц астаецца ў садзе, хаваючыся ў шчылінах кары, дзе робяць сабе белыя вопрадні, у каторых зімуюць. Вясною наступнага году пэратвараюцца яны ў бранзовыя пачваркі, даўжыні 9–10 мм. У траўні, чэрвені з пачварак выходзяць ужо матылі. Тое самае робіцца з вусеніцамі, которыя дасталіся разам з пладамі ў сьвірны ці нейкія іншыя склады.

Аб шкоднасьці яблычнай пладоўкі ня трэба шмат казаць. Гандлёвая вартасьць пашкоджаных пладоў вельмі малая. Плады такія ня вытрымоўваюць даўгой перахоўкі і зьўляюцца небясьпечнымі, як жаролы псаваньня пладоў у складах.

Спосабы змаганьня з гэтымі шкоднікамі наступныя:

1) Зьбіраць у дзень (бо пад вечар вусеніцы вылазяць з апаўшых яблыкаў) апаўшыя плады, каторыя часткава могуць мець у сабе вусеніц шкодніка.

2) Старанна апырсківаць яблыні і йгрушы (галоўным чынам іхнія плады) *парыскай зеленяй*, каб атруціць тыя вусеніцы, каторыя угрызаюцца ў плады. Найлепш гэта рабіць 10 дзён пасьля таго, як ападуць цьвятныя пялёсткі.

3) Закладаць перавёслы з саломы ці анучак, калі ўжо пачнуць ападаць першыя чарвівыя яблыкі і йгрушы. Яшчэ лепшыя вынікі даюць паяскі, з карбаванай паперы, якую ўжываюць у гандлі да апакоўкі шклянных прадметаў. Карбаваную паперу трэба парэзаць на паяскі, каля 20 цм. шырыні і аблажыць пэргамінавай паперай. Пасьля налажыць гатовыя паяскі навакол пня і прывязаць шнуркам у верхняй і споднай часьці паяска. Перад закладаньнем паяскоў трэба добра аскрабаць каравіну з пнёў, галоўным чынам у тых мяйсцох, дзе будуць накладацца паяскі. Добра накладаць па *два* паяскі на дрэва: адзін пад самай каронай, а другі на 20–30 цм. ад зямлі. Пад такімі паяскамі хаваюцца вусеніцы,

каб перазімаваць і перавярнуцца ў пачварку. Дзеля гэтага закладаем паяскі на пачатку ліпня, а зьнімаем аж пры першых прымаразках. Пасьля гэтага паяскі ці перавёслы, трэба спаліць разам са шкоднікамі, а таксама аскрабаць кару з-пад паяскоў, дзе часта хаваюцца вусеніцы ў вопрадня.

Ёсьць яшчэ другі шкоднік, каторы псуе плады ў падобны спосаб, як пладоўка. Гэта балонкакрылка *Hoplocampa testudinea Kl.* Выступае яна аднак-ж значна раней і есць маладзейшыя (меншыя) плады, каторыя таксама ападаюць. Вусеніцы яе закопываюцца ў зямлю, дзе перативараюцца ў пачваркі, з каторых вясною наступнага году выходзяць ужо дарослыя бэлонкакрылкі. Змагацца з ёю можна, перакопываючы ў восені зямлю пад дрэвамі яблыняў, на каторых яны жыравалі.

*Мікалай Караленка.*

---

# Праца ў садзе ў ліпні.

Ліпень гэта апошні месяц, у якім можна ўгнойваць сад навозным цечамі. Гэтае ўгнойваньне добра дзее на ўзрост дрэваў, ураджай і якасьць фруктаў, а таксама добра ўплывае ны тварэньне завязі цьвету на наступны год. Пазьней як у ліпні ўгнойваць не рэкамэндуецца, бо гэта можа блага адбіцца на дрэве дзеля таго, што гадавыя пабегі пад уплывам угнойваньня належна не зьдзервянеюць і зімой могуць прымерзнуць. Дрэвы ня ўгнойваныя летам, ня вытвараць моцных завязак цьвету і звычайна родзяць праз год, а гэта дзеля таго, што абясьсіліліся сёлетнім ураджаем, а адпаведнай спажывы дзеля пакрыцьця страты сілы не знаходзяць.

У часы засухі шчэпы, пасаджаныя ў восені і вясной трэба паліваць і міскі навакол дрэва пакрываць навозам дзеля ўтрыманьня вільгаці, старым дрэвам, якіх паліваць нямя магчымасьці, робім запас вільгаці, старанна перакопываючы і ўспульхніваючы ды нішчачы кругом яго пустазельле. Перакопываць і ўспульхніваць трэба ня так, як гэта ў нас робіцца, каля самага пня крышку, але так шырака, як раскладаецца карона дрэва.

Стала перdroглядаць дрэвы ці няма якіх шкоднікаў, з якімі трэба весьці барацьбу, апрысківаючы дрэва, ці зьбіраючы рукамі.

Апад абавязкава трэба зьбіраць, скормліваць скацінай горшы, лепшы ўзяць на ўсялякія перапробкі, высушыць, зварыць мармаляду і г. д. Каб дрэвы не паламаліся тыя сукі, на якіх шмат фруктаў, трэба падпіраць. У другой палове месяца ліпня і ў першай жніўня ачкуюцца дзічкі.

*А. Войцік.*

---

# Ня марнуйце дзікіх яблыкаў і груш.

Аб тым, як цяжка цяпер жывецца хіба пісаць ня трэба, бо кожны сам гэта ведае, што зарабіць нямя дзе, а на нашых вузкіх палосках без заработку не пражывеш. Матузок зямлі, сем, восем душ сям'і, рабочых рук шмат, але рабіць няма чаго.

У часы, калі можна было выехаць у горад, у Амэрыку ці ў які іншы край, вялікая сям'я ня была няшчасьцем, але ў цяперашнія ча-

сы, часы крызысу і безрабоцьця, вялікая сям'я на вузкім шнурку — гэта трагэдыя. Як ужо сказана вышэй, вузкі шнурок нават не пракорміць сям'і, а скуль узяць грошы на соль, на газу, на боты, на падатак і г. д.

Што рабіць, каб аканчальна не загразнуць у балоце нендзы? Адказ ясны.

Трэба шукаць новых крыніцаў даходу, новых шляхоў у сваей гаспадарцы, выкарыстаць усе магчымасьці, каб здабыць так патрэбны грош.

Наша часапіс паставіла сабе за мэту вынаходзіць гэтыя крыніцы, адкрываць шляхі беларускаму сялянству і дзеля гэтага ўвяла адзел лекарскіх зёлак і шмат іншых карысных аддзелаў.

Ня гледзячы на тое, што гэтае пытаньне падымалася ўжо некалькі разоў і ніякіх вынікаў не дало, мы, аднак, зьвернем на яго ўвагу.

Гэтым пытаньнем, гэтай галінай, хаця й невялікага, але пэўнага даходу, могуць быць дзікія яблыкі й грушы. Плады гэтых дрэў у нас часта густа марнуюцца ня прыносячы ніякай карысьці і гэта ў той час, калі насеньне дзікіх яблыкаў і груш выпісываецца з за граніцы на паважныя сумы. Каб ня быць галаслоўным прывяду адзін факт. У леташнім годзе аднаму з нашых падпісчыкаў патрэбна было два кілёграмы насеньня дзікіх яблыкаў. Ен зьвярнуўся ў нашу рэдакцыю з просьбай прыслаць іх яму і што-ж аказалася. Ня толькі віленскія насенныя склады яго ня мелі, але мы не маглі дастаць насеньня краёвага паходжаньня ў цэлай Польшчы і былі змушаны выпісаць з Аўстрыі.

Мы баімся, каб і сёлета не паўтарылася тая гісторыя і таму зьвяртаемся з заклікам: Не марнуйце дзікіх яблыкаў і груш, ахоўвайце іх! Запатрабаваньне на насеньне дзікіх яблыкаў і груш сёлета аграмаднае, цэны не малыя.

Наша рэдакцыя прыйме ўсялякую колькасьць насеньня ці дасьць крыніцу збыту. Аб тым, як і калі зьбіраць плады дзікіх яблыкаў і груш, адлучаць насеньне, сушыць і перахоўваць яго напішам у свой час.

*А. Войцік.*

---

# ДАГЛЯД ВАРЫВА Ў ЧАСЕ ЯГО РОСТУ

Праз усё лета трэба ўтрымаць варыва ў варунках для яго найкарысьнейшых, тады можна спадзявацца высокага ўраджаю і добрай, якасьці.

Першым неабходным варункам добрага росту варыва зьяўляецца чысьціня і пухкасьць зямлі.

Барацьбу з пустазельлем трэба пачынаць як найраней, не дапускаючы, каб яно перарасло пасеянае варыва. Варыва заўсёды спачатку расьце слаба і памалу ды пакуль разрасьцецца і закрые загоны, пустазельле займае пустое мейсца, адбіраючы варыву ваду, спажыву і сьвятло. Пустазельле выступае ўсюды, на кожнай зямлі дзеля таго. што яно, як расьліна дзікая вельмі жывучая, вытварае вялікую колькасьць лёгка разсяваючагася насеўку, які захоўвае сілу прарастаньня часта па 10, 15 і больш гадоў. Дзеля гэтага вельмі важна не дапускаць, каб ня толькі на гародзе, але нават на няўжытках пустазельле, цьвіцела і даспявала. Ёсьць яшчэ група пустазельля, якая размнажаецца пры помачы сваіх падземных частак. Да іх належаць пырнік, асот, падбел, хрэн. З імі барацьба вельмі цяжкая, але-ж і іх пры помачы вельмі ста-

раннага вырабляньня глебы з часам можна зусім пазбыцца.

У нас дагэтуль полюць загоны проста рукамі ня ўжываючы ніякіх прыладаў, Гэты спосаб вельмі марудны і пры тым зямля астаецце цьвярдой, не ўзварушанай, чаго быць не павінна. Ёсьць шмат розцых прыладаў — зубатых матычак, якімі перакопываецца далікатна зямля паміж радкамі варыва, а тады лёгка і хутка выбіраецца выкапанае з карэньнем пустазельле.

У кожным гародзе пустазельля набіраецца даволі вялікая колькасьць, ды ня можна яго марнаваць, а трэба выкарыстаць умела дзеля ўгнаеньня гэтага самага гароду. З зялёнага, яшчэ незьдзярэвянеўшага, г. зн. маладога пустазельля прыгатаўляюць або *гнаёўку* або г. зв. шляхотны, хутка сьпеючы, *кампост.*

Гнаёўка з маладога пустазельля вельмі надаецца да паліваньня ў часе росту памідораў, агуркоў, капусты, трускавак, малінаў, аграсту і г. д. Дзеіць яна вельмі хутка і карысна,

Прыгатаваць яе вельмі лёгка. Выпалатае з загонаў маладое пустазельле складаецца ў бочку ўкапаную дзе небудзь у кутку гароду і на кожныя яго 2 кіляграмы даецца 8 літраў мяккой дажджавой або рачной вады, У хуткім часе пачынаецца фэрмэнтацыя ды на паверхні зьбіраецца брудная пена. Калі толькі пена перастане паказывацца — гнаёўка гатовая. Вельмі добра дадаць да яе крыху штучных гнаёў; на кожныя 10 літ. 50 грам, каініту або 30% вай патасовалі солі. Ня маючы штучных гнаёў, можна дадаць звычайнага попелу. Добра вымяшаўшы гэтую гнаёўку ўжываюць як і кожную іншую: 1 частка гнаёўкі на 4–5 частак чыстай вады. Паліваецца перад дажджом раз у 7—10 дзён. Хочучы перарабіць пустазельле на шляхотны кампост складаем яго ў кучы, не дадаючы ніякіх іншых матарыялаў і час ад часу паліваем вадой або моцна разведзенай гнаёўкай Такі кампост ніякага перакладаньня не патрабуе і пасьля 6 — 8 месяцаў зьяўляецца гатовым да ўжытку. Гаворачы аб даглядзе варыва мусім дадаць, што будзе яно памысна расьці толькі тады, калі будзе мець даволі мейсца, г. зн. ня можа расьці вельмі густа. Дзеля гэтага густа пасеяная варыва трэба абавязкава перарываць і то яшчэ тады, пакуль яно маладое.

*Л. Войцікава.*

---

# МШЫЦА

Сёлетняе гарачае і сухое надвор'е вельмі спрыяла распаўсюдженьню розных адмэнаў мшыцы. Зялёная, шэрая і чорная мшыца масамі нападае на маладое лісьцё яблынь і сліваў і на маладыя вяршкі некатарай агародніны напр. бобу. Мшыца высысае сокі з лісьця і мяккога сьцябла, ад чаго лісьцё скручываецца, корчыцца расьліна жаўцее, і моцна слабее.

Барацьбу з шмыцай вядзецца толькі пры помачы апырсківаньня. Ёсьць шмат дзеля гэтай мэты гатовых хэмікаліяў, але ня ўсюды іх можна дастаць і даволі дорага каштуюць. Найпрасьцей прыгатаваць самім сумесь адвару тытунёвага пылу і шэрага мыла. Прыгатаўляецца так: 200 грамаў тытунёвага пылу, або махоркі, наліваецца на нач 6 літрамі вады, на другі дзень варыць на малым агні ў працягу 2 гадзін, пасьля, як астыне перацадзіць. Асобна ў цёплай вадзе разьвясьці 100 грам

шэрага мыла і зьмяшаць з тытунёвым адварам. Да ўсяго дадаць яшчэ 12 літраў вады і тады атрымаем сумесь гатовую для апырсківаньня. Ня маючы сумыснай прылады можна апырскаць проста рэдкім сухім бярозовым венікам, бяз лісьця Трэба заўважыць, што апырсківаньне трэба паўтырыць 2—3 разы па 1-му разу ў тыдзень, пры тым аднача сна ўсе апанаваныя расліны, бо мшыца вельмі хутка разлазіцца аставіўшы часьць раслін апанаваных не апырсканымі аставім, якбы рассаднік мшыцы.

*Л. В.*

# Земляробства

## ЛЁН

На зямной кулі засяваецца рознымі расьлінамі каля 600 мільён. гэктараў. Восем збажовых расьлін займаюць кала 400 міл. гэкт., 40 міл. прыпадае на валакністыя расьліны, 32 мільёны ідзе пад хлапок, 3 мільёны пад лён, 1,5 міл. пад канаплю. Амаль увесь збор валакністых, зужываецца, астаецца ў запасе вельмі мала. Збажовыя расьліны раскіданы па ўсім сьвеце — валакністыя выступаюць толькі ў некатарых мясцох. І так хлапок расьце ў Амэрыцы і Азіі, лён пераважна на Ўсходзе Эўропы. У Цэнтральнай і Заходняй Эўропе сеюць яго мала. Спачатку лён скарыставалі ў сваім абыходзе, вырабляючы з яго ручным спосабам вопратку, потым пачалі мэханізаваць пражу і ткацтва. Хаця-ж лён старэйшая ў нас расьліна, але прасьці яго мэханічна пачалі гадоў 70 пазьней чымся хлапок. Раней шмат дзе сеяўся лён, але потым пачалі прывазіць хлапок, як танейшы і такім чынам выпіралі лён. У нас яшчэ і дагэтуль шмат сеюць лёну, але з гэтага $^{2}/_{3}$ ідзе на ўласнае карыстаньне гаспадара. У колішняй Царскай Расеі было інакш. Там рабілі — прадавалі, а сабе за гэта куплялі крамніну. Таму там і не разьвіўся так хатні выраб палатна, як у нас. На Беларусі заўсёды шмат сеялі лёну, таму, што ў старыя часы адзінай адзежынай была льняніна. Пасьля па малу пачала прывівацца крамніна — але і яна ня здолела выперці саматканых вырабаў. Пасьля вайны і рэвалюцыі Савецкая Беларусь, дзякуючы калектывізацыі, прызнана ў пляне льняным раёнам. Сеюць яго там шмат, але не абрабляюць ручным спосабам — аддаюць на фабрыкі. У апошнія гады плошча яго даходзіла да 243.000 гектараў. У агульна сусьветным абшары — гэта будзе складаць каля 9,490. На Заходзе Эўропы плошча лёну скарацілася значна ў параўнаньні з 19 стагодзьдзем. Напрыклад Нямеччына сеяла ў 1860 годзе 191.000 гэкт. лёну — у 1911 годзе ўсяго толькі 15.000. А цяпер, у апошнія часы, дзякуючы таму, што прывозіць хлапок з Амэрыкі Нямеччына сваю плошчу засявае збожам, каб мець што есьці—таму перарабляе старую вопратку. Але зменшаньне плошчы засеву лёну наступіла і ў другіх краёх. Англія ў 1860 годзе — 999.000 гэк., у 1911 годзе 27.000 гэк., Бэльгія 58.000 г. — 18.000 г., Францыя 107.000 г. —

25.000 г., Італія 80.000 г.—18.000 г., Царская Расея 300.000 г.—1.143.000 г. Значны ўзрост зазначыўся толькі ў Расеі. У Польшчы этнічнай сеюць мала лёну. Сеюць яго нат у Пазнаншчыне – але на месцы, для сябе не перарабляюць, адразу вырваўшы, ды вымалаціўшы, адсылаюць на фабрыкі Нямеччыны і Чэхаславаччыны. Каранное польскае насельніцтва ня вельмі ўжо абходзіцца з лёном. У 1931/32 год у Польшчы было засеяна каля 115.000 г.—менш-больш у 250.000 гаспадароў. У гэтым годзе на Захадзе яшчэ менш сталі сеяць лён. Англія ўсяго 8,000 г., Бэльгія 8.000 г., Чэхі 7 000 г., Францыя 10.000 г., Нямеччына 4.000 г.. Саветы 2.500.000 г. У Польшчы найбольш лёну прыпадае на наш край. І так у 1928 годзе адна Віленшчына засеяла 38.000 г., Наваградчына 15.600 г., Беласточчына 13.300 г., Палесьсе 12.100 г. і т. д.

Лён вымагае вельмі шмат працы. На 1 гэктар лёну прыпадае — на абробку 150 днёў, на пражу 700 днёў, тканьне 250 днёў. Разам каля 1.100 днёў працы забірае 1 гэкт. лёну, даючы каля 1.200 метраў палатна шырынею 70 цм. На адзін дзень працы прыпадае крыху больш чымся 1 мэтр саматканага палатна. У нас усё робіцца рукамі, таму і затрата людзкой працы агромная. Даволі сказаць што ў Польшчы (нашы землі становяць у гэтым большасьць) ёсьць каля 700.000 красён, дзе ручным спосабам робіцца палатно. Лён, як ужо было сказано вышэй — пачалі прасьці мэханічна, гадоў 70 пазьней, чымся хлапок. Ангельцы, якія першыя мелі машыны да пражы забаранілі пад пагрозай сьмерці перанасіць іх у Эўропу; а таму, што самі мелі шмат сыр'я з сваіх колёній — думалі трымаць манаполь у вырабе мануфактуры. Потым аднак машына перанясласа і да іншых краёў.

Цяпер на лёне працуе да 3-х мільёнаў мэханічных верацён. Хлапок прадзе амаль ня сорак мільёнаў верацён. У Польшчы хлапковых верацён каля 1.100.000, льняных 16.000. Цэнтрам льнянай прамыславасьці ў Польшчы ёсьць Жырардаў. У апошнія часы робяцца захады, каб пусьціць у рух льняную фабрыку ў Нова-Вілейцы (каля Вільні). Найбольш верацён на лёне працуе ў Англіі —1.100.000, у Францыі—500.000, Бэльгія, Чэхаславаччына — 200.000, Саветы — 400.000. Першыя некалькі краёў, хаця самі ў сябе сеюць мала лёну — аднак маюць льняны промысел разьвіты даволі добра, бо працуюць на прывезеным сыр'і. Саветы параўнаўча да плошчы засеву маюць мала верацён—але гэта тлумачыцца тым, што яны большасьць выпрадукаванага лёну вывозяць заграніцу. Мэханічнае верацяно спрадзе ў працягу 8 гадзін 400—500—600 грамаў лёну, добрая пральля–300 гр. мала што хутчэй. Толькі ёсьць адна розьніца, а іменна тая, што пры мэханічнай пражы адзін рабочы абслугоўвае ад 20 да 25 верацён, а пры ручной рабоце 1 верацяно—1 работніца. На фабрыцы рабочы атрымае ўсяго толькі пятую часьць таго заробку, які прыпадае на гэтыя 25 верацён—рэшта ідзе на іншыя расходы–пральля забірае сабе ўвесь заробак. Гэты заробак невялікі—менш - больш 50 гр. у дзень – рабочы пры мэханічнай пражы — 3 зл., а майстар 10 зл. Розьніца даволі вялікая. Для нас лён мае аграмаднае значэньне. Ен для нас проста не замянімы ў адзежы, так як бульба ў ежы. І да аднэй і да другой расьліны, наша зямля зусім прыгодная і дае пры добрым стараньні магчымы ўраджай Шкода толькі, што мы ня маем на мейсцы льняных фабрык, дзе-б можна было-б, на мяйсцовым сыр'і мяйсцовымі рукамі вырабляць палатно. Нат, калі ўжо нельга залажыць фабрык палатна, добра было-б, каб гаспадарчыя арганізацыі з помаччу коопэрацыі падумалі аб залажэньні

на мейсцы фабрык пражы. Гэтага ўжо даўно дамагаецца вясковая кабета, якая марнуе сваё здароўе над верацяном. Ужо выткаць, яна сама вытчэ – так як хоча, але каб ей прыйсьці з помаччу ў пражы, над якой кабета праводзіць усю зіму бяз руху, чыстага паветра ў нізкой, цёмнай хаце. У цярці і трапаньні першыя шагі зроблены (хаця ня ўсюды) — прапагуецца ручная (можа быць і конная) вальцавая церліца (мяліца) і трапак, які можа зрабіць добры вясковы сталяр. Шкада толькі, што да гэтага часу няма танных мадэляў— бо з рысунку ня кожны патрапіць. Аб гэтым трэба падумаць, – тут можам памагчы ня словам, а дзелам. *П. З.*

# ГІГІЕНА і МЭДЫЦЫНА

## Першая помач летам

*Як ратаваць топельніка?* Ачысьціўшы пальцам з пяску мулу і ўсякага бруду рот і горла топельніка, трэба палажыць яго жыватом на нечым падасланым так, каб галава была ніжэй за тулава. Можна яго перавесіць праз калена, і націскаючы на плечы і грудзі выціснуць праз рот ваду. Выціснуўшы ваду, палажыць топельніка дагары, зьняць з яго вопратку і старацца вярнуць яму якнайскарэй дыханьне расьціраючы грудзі і твар, дражнячы сьлізьніцу наса пярынкой, даючы нюхаць амоньяк (нашатырны сьцірт), этэр, а самае галоўнае робячы доўга і акуратна (нават болей як паўгадзіны) штучнае дыханьне. Здараецца, што штучным дыханьнем можна яшчэ адратаваць чалавека, які быў пад вадой 15 мінут, а нават і балей

Рагаваць топячагася трэба вельмі асьцярожна. Спачатку скора скінуць сваю вопратку і падплыўшы да топячагася, схапіць яго за валасы, за адзежу, ці ў нейкі іншы спосаб, але так, каб топячыся не хапіў ратуючага за рукі і не ўтапіў яго самога.

*Ударaных пяруном* не закопываць у зямлю, бо гэта можа ім толькі пашкодзіць, але палажыць выгадна, парасшпіліць вопратку і рабіць расьціраньне цела, абліваць на зьмену халоднай і цёплай вадой, падсоўваць пад нос на ваце этэр, аманьяк, і ў канцы – рабіць штучнае дыханьне і даваць лекі пабуджаючыя дзейнасьць сэрца: чорную каву, моцную гарбату, валерыянавыя каплі.

*Укушаным гадзінай* зрабіць тугую перавязку вышэй укусы, каб кроў не разносіла атруты па ўсім арганізме, рану выціснуць, а яшчэ лепей высмактаць (губы мусяць быць цэлыя)!, прыпаліць гарачым жалезам ці якім небудзь едкім хімічным целам.

*Укусы камароў восваў пчолаў, аваднёў.* Калі ёсьць жыгала, дык выцягнуця яго і прыкладаць на ўкушанае мейсца кампрэсы з сьпірту або аманьяку.

*Сонечны ўдар* здараецца ў сонечныя. гарачыя дні. *Цеплавы ўдар* бывае ў дні нават хмарныя. У абодвух выпадках хворага трэба разьдзець, каб цела добра праветрывалася, даваць піць штонебудзь халоднае. У выпадку патрэбы, калі хворы перастае дыхаць, — рабіць штучнае дыханьне, даваць піць моцную каву, гарбату, даваць нюхаць этэр, амоньяк. *В. Т.*

# КАРОСТА

Хвароба ўсім ведамая. Агранічываецца толькі да скуры, якая вельмі сьвярбіць. Выклікае яе паразіт падобны да кляшча, толькі, вельмі малы, аднак, маючы добрыя вочы, можна яго ўбачыць.

Самка рые ў скуры пры самай паверхні крывыя пакерзаныя лёхі-раўкі, якія выразьней відаць памазаўшы хворае месца ёдам, чарнілам ці сажай. Потым, калі чарніла ці сажу сьцёрці, дык на скуры больш выразна выступяць раўкі цёмнымі рыскамі. Хваробу выклікае толькі самка, яна рые лёхі і пераходзіць на сьвежага, здаровага чалавека ці то беспасярэдня, ці праз заражаную вопратку або іншую рэч.

Па 6—8 тыднях ад заражаньня скура пачынае сьвярбець і то перадусім у начы. Потым можна ўбачыць на скуры пузыркі з гноем, а сама скура робіцца чырвоная з шматлікімі норамі паразіта і сьлядамі ад цярабленьня.

Найчасьцей паразіт жыве ў хвалдах між пальцамі і на перагібах рук, каля косткі на нагах, у паясьніцы, на клубе спераду грудзей, да кален толькі і на плячах, шыі і твары ніколі нямя кароcты.

Пазнаць хваробу напэўна можна толькі нашоўшы паразіта і яго норы – лёхі. Аднак не нашоўшы гэтых пэўных азнак можна спрабаваць лячыць, як каросту кожную скурную хваробу, калі толькі сьвярбіць скура. Бо іншыя хваробы скуры, або лечацца такім самым спосабам, як кароста або наагул нявылячымыя.

Найлепшым і найтанейшым лякарствам ад каросты зьяўляецца масьць Вількінсона (ung Wilkinsoni) Ей трэба вымазацца 5 разоў узапар што 12 гадзін апрача твару. Праз увесь час мазаньня ляжаць у ложку ў тэй самай благой адзежы, бо масьць нішчыць вопратку. Па вымазаньні на 3-ці дзень зраньня вымыцца да чыста з мылам, — і лячэньне кончана, Калі-б на скуры паказаліся якія плямы, ці скура пачырванела, пякла, ці сьвярбела, мазаць толькі белай цынкавай масьцю, але другі раз не правадзіць лячэньня масьцю Вількінсона. Іншыя лякарствы, хоць мо' больш далікатныя і ня так пэцкаючыя, куды даражэйшыя, а памагаюць ня больш і ня лепшыя за масць Вількінсона.

Калі ў сям'і ці іншым цясьнейшым у сужыцьці асяродзьдзі, адзін чалавек напэўна хворы на каросту—трэба адразу лячыць усіх. Вопратку і хусьцё выварыць ці выпрасаваць жалязкам, або не апранаць 2—3 тыдні. Хаця хваробу выклікае паразіт, аднак ня ўсе аднолькава на яе хварэюць.

У некатарых хвароба зусім не паказываецца, у іншых аднак, як кажа прыказка: „Кароста не напасьць, аднак у начы спаць ня дасьць.

Каб усьцерагчыся ад каросты трэба якнайменш стыкацца з людзьмі хворымі на яе, з іх вопраткай і рэчамі да якіх яны датыкаліся. Вельмі важная рэч пры гэтым,—як і пры ўсякіх іншых хваробах,— чысьціня. Бруд і неахайнасьць спрыяюць заражэньню і разьвіцьцю хваробы.

*Віктар Войтэнка.*



НЯ МАРНУЙЦЕ БАГАЦЬЦЯ НАШЫХ ПАЛЁЎ І ЛЯСОЎ. ЗЬВІРАЙЦЁ ЗЁЛКІ І НАСЕНЬНЕ ДЗІКІХ ЯБЛЫКАЎ ДЫ ГРУШАЎ!




# Арганізацыя жаночай працы

(п р а ц я г).

Жанчына-матка, гэта ня толькі гаспадыня ў хаце і нянька, але таксама, а нават перадусім, *выхаваўца* маладога пакаленьня. Яна мусіць з маленькага бязраднага дзіцяці зрабіць сільнага здаровага, вытрывалага, разумнага, сумленнага і карыснага для грамадзянства чалавека. На гэта жанчына *мусіць мець час.* Скуль-жа яго ўзяць *пры шматлікіх* абавязках гаспадыні? Аб гэта павінен дбаць муж. Выхаваньне дзіцяці гэта і яго абавязак, Памагчы жанчыне здабыць неабходны ей *час* гэтаксама яго абавязак. Мужчына пры добрай волі заўсёды можа знайсьці крыху часу, каб насячы на запас дроў, прынясьці ў хату вады, наладзіць папсаваўшаеся хатняе начыньне і г. д. Маючы ўсё пад рукой жанчына ня будзе траціць дарагога часу на зьбіраньне і ламаньне хворасту ў печ, або на пазычаньне ў суседкі качаргі. бо свая зламаная і няма каму паправіць. Маючы добра наладжаную працу і спакойную галаву жанчына-матка ня выправіць сваіх дзяцей на вуліцу, абы з хаты пазбыцца, а будзе старацца як найбольш мець іх пры сабе, баронячы такім чынам дзяцей ад бояк, брыдкіх словаў, лаянкі і г. д.

Старшае, некалькі гадовае дзіця, ці то хлапец, ці дзяўчынка, можа ўжо прыняць удзел у хатняй працы маткі. Ня трэба баяцца даць дзіцяці лёгкую даступную работу. Некатарыя маткі моцна кахаючы дзіця кажуць: „о, я ня дам яму працаваць. пяхай гуляе, яшчэ нагаруецца, як вырасьце“. Гэта вялікая памылка. Перадусім трэба сабе сказаць, што праца гэта ня *нешчасьце*, не *цяжкі абавязак*, а нармальнае зьявішча ўва ўсей прыродзе. Чалавеку, які будучы дзяцём чуе „гуляй, яшчэ нябядуешся“, праца будзе сапраўды горам, але такому, што ад малых дзён разам з маткай браўся да нейкай работы, калі чуў пры гэтым і добрае слова, і песьню, і жарт, праца ніколі цяжкой ня будзе Трэба толькі ўмець і навучыць дзіця бачыць ды адчуваць *радасьць* з выкананай працы: матка кліча дзяцей „давайце дзеткі прыбярэм хатку. Вось, як цяпер добра, чыста ды міла! Прынясі яшчэ, Зося, кветак, паставім на стол. А што, прыгожа? Ну вы цяпер гуляйце, а я сьвінкам есьці панясу“. — Другі раз дзеці і самі захочуць прыбраць сваю хатку і сьмяціць ужо ня будуць, шкада ім будзе сваей работы.

І гэтак усюды ўмеючы знайсьці і адчуць радасьць з выкананай працы і ўмеючы перадаць гэту здольнасьць сваім дзецям і хатнім, патрапім так зарганізаваць жыцьцё сваё і сваей сям'і, што знойдзецца час і ахвота да шуканьня новых дарог да палепшываньня свайго матарыяльнага і духовага быту.

*Л. Войцікава.*

# Беларуская хроніка

23 траўня с. г. адбыўся ў Вільні гадавы сход сябр оў Беларускага Крэдытнага Коопэратыву (даўней Коопэр. Банк.), на якім была разгледжана і зацьверджана справаздача і білянс за 1936 г.

Справаздача гэтая высьветліла стан Т ва, які прадстаўляецца гэтак.

На 1 студзеня 1937 году Т-ва мела ўласнаго капіталу:

| | |
|---|---|
| паявога, які зварочываецца сябром — — зл. | 17.296.75 |
| Запаснога і спэцыяльных (сумы гэтыя становяць уласнасьць Т-ва) зл. | 1.360.10 |
| Стыпэндыяльны фонд для бедных вучняў зл. . . | 1.137.86 |
| Усяго зл. . . | 19.794.71 |
| Укладаў і % % ад іх было зл. . . . . . . . | 44.804.35 |
| Сумы пераходныя (цачасныя) [гэта галоўным чынам нявыплачаныя паі быўш. сяброў, пэнсіі і інш.] зл. . . . . . . . . | 9.387.01 |
| Усяго гэт. чынам у абароце было зл. . . . . . | 73.986.07 |
| З гэтых капіталаў было зьмешчана ў звычайныя пазыкі сябром Т-ва зл. . | 41.467.58 |
| у пазыкі сконвэртаваныя зл. . . . . . . . . | 19.645.— |
| у пратэст вэксалёх зл. . | 10.198.28 |
| Судовыя і іншыя выдаткі на прат. вэксал. зл . . . | 989.40 |
| Рухомая маемасьць зл. . | 1.025.39 |
| Належнасьць ад Банку Акцэпт. як. дапамога на пакрыцьцё стратаў ад абніжкі % % па сконвэртав пазыках зл. . . . . | 340.89 |
| У касе аставалася зл. . | 19.20 |
| Страты за 1936 г. зл. . | 340.33 |
| Усяго зл. . . | 73.986.07 |

Страты Агульны Сход пастанавіў спісаць з запаснога капіталу.

Прыглядаючыся да пададзеных цыфраў бачым, што Т-ва мае ў абароце значны % % уласных капіталаў, бо больш чым 26%, а ўклады становяць толькі 60% усяго абаротнага капіталу. Такі стан рэчаў сьведчыць аб досыць моцным стане Т-ва. Калі Т-ва ў апошнія гады і знаходзілася ў цяжкім стане, то толькі дзякуючы таму, што ня было даплыву грошаў у яго касу, а гэта знаходзілася ў зьвязку з акцыяй падпісываньня конвэрсыйных умоваў, мараторыюмам для земляробаў, а галоўным чынам паходзіла па нядбаласьці даўжнікоў Т-ва, якія не плацілі акуратна нават працэтаў.

Пачынаючы ад 1 студзеня с. г. ўсе коопэратыўныя банкі атрымалі права сьцягіваць праз суд даўгі і залеглыя % % ад сваіх неакуратных даўжнікоў, якія не падпісалі конвэрсыйных умоў, і ўправа Т-ва ў бягучым годзе мае замер рашуча заняцца гэтым.

Далей была абгаворана справа стварэньня пры Т-ае пасмертнага фонду, мэтаю якога было-б дапамагаць супольнымі сіламі сям'і памёршага сябра. Даручана распрацаваць статут гэтага фонду і прадставіць яго на зацьверджаньне Агульнага Сходу.

На заканчэньне адбыліся выбары новых сяброў Нагляднае Рады і ахвяравана 10 злотых на будову памятніка на магіле беларускага пісьменніка А. Лявіцкага (Ядвігін Ш.)

Беларуска Крэдытнае Т-ва, якое зьяўляецца у нас адзінай беларускай крэдытнай установай, уступае зараз у новы пэрыяд свайго існаваньня, і можа ў будучыні адыграць вялікую ролю ў нашым жыцьці, дзеля гэтага беларускаму грамадзянству трэба зьвярнуць больш увагі на гэту нашу установу.

———

# З усяго сьвету

## ХМАРЫ НА ДАЛЁКІМ УСХОДЗЕ.

Японска-Манджурскае войска заняло астравы на Амуры, якія у чэрвені былі занятыя праз Савецкіх пагранічнікаў. Тады ў выніку дыплёматычных гутарак войска савецкае звольніла гэтыя астравы, пад варункам, што справа дзяржаўнай прыналежнасьці іх будзе вырашаная ў адумыснай камісіі. Японцы аднак ухіліліся ад палюбоўнага вырашэньня пытаньня і занялі астравы гаворучы, што яны ёсьць уласнасьць Манджурыі.

Камісар загр. спраў Літвінаў заявіў, што яны не дозволяць гэтакага способу вырашэньня спрэчных справаў і што савецкаму войску дадзены прыказ абараняць усімі магчымымі способамі граніцы дзяржавы.

## ЯПОНСКА-КІТАЙСКІ КАНФЛІКТ

Дзяржавы сьвету, якія зацікаўлены ў захаваньні спакою наУсходзе з напружаньнем сочаць за падзеямі, якія разьвіваюцца ў Кітаі. Апошнімі днямі каля Пэкіну была сутычка японска-манджурскага войска з кітайскім. Былі забітыя і раненыя. Абедзьве стараны вінавацяць у гэтым адна адну. Сутычка гэтая ня носіць характару звычайнага пагранічнага непаразуменьня, якое канчаецца перапрашэньнем, а пагражае ператварыцца ў сапраўдную вайну. Абедзьве стараны сьцягіваюць сваё войска. Нанкінскі цэнтральны ўрад Кітаю абвясьціў агульную мабілізацыю і заклікае ўсіх кітайцаў да абароны бацькаўшчыны. Японцы дарučылі Кітаю ноту дамагаючыся звароту страт і гваранцыяў бясьпечнасьці японцаў у Кітаі.

## ПАДЗЕЛ ПАЛЕСТЫНЫ.

Адумысная г. зв. каралеўская камісія у Лёндыне апрацавала праект падзелу Палестыны на дзьве самастойныя дзяржавы — жыдоўскую і арабскую, пакідаючы пад мандатам Англіі, толькі Сьвятыя Мяйсцы. Праект гэты ўносіцца на зацьверджаньне ў Лігу Народаў. Жыды і арабы аднясьліся да яго няпрыхільна. Ня спаткаў праект агульнага ўзнаньня і ў прэсе.

## У ГІШПАНІІ.

Хатняя вайна у Гішпаніі ня спыняецца. Паўстанцы пасля гарачых баёў занялі Більбао і ўвесь край Баскаў. Баскі заўзята бараніліся, але пакінутыя на ўласны лёс былі змушаны адыйсьці. На мадрыцкім фронце ідуць бai з пасьпехам на баку рэспубліканцаў.

## КАМІСІЯ НЕІНТЭРВЭНЦЫІ

У міжнароднай камісіі да спраў неінтэрвэнцыі ў Гішпаніі завастрыліся разьбежнасьці паглядаў на справу кантролю морскай граніцы паміж Нямеччынай і Італіяй з аднаго боку, — Францыяй і Англіяй з другого. Дамаганьня Нямеччыны ня могуць быць прынятыя праціўнай стараной. Ангельскі ўрад апрацаваў новы плян сыстэмы няўмешываньня ў Гішпанскія справы. Калі і гэты ня дасьць дадатніх вынікаў Францыя і Англія адмовяцца ад кантролі граніцаў і дадуць магчымасьць памагаць праз іх граніцы рэспубліканскаму ўраду

## МАСКВА—ПАЎНОЧНЫ ПОЛЮС—АМЭРЫКА.

Савецкія лятуны зрабілі спробу пералёту з Масквы ў Амэрыку праз Паўночны полюс, пакрыўшы ўсю адлегласьць бяз перасядкі. Пасьля ўдалай першай спробы, гэтымі днямі лятуны паляцелі паўторна і праляцелі 10.800 кілямэтраў, пабіўшы сусьветны рэкорд.

# Пытаньні і адказы.

ПЫТАНЬНЕ: Ці ядуць пчолаў шпакі і наагул іншыя птушкі?

*І. Матылёнак.*

АДКАЗ: Дагэтуль не заўважана, каб шпакі елі пчолаў, але ёсьць птушкі, якія асабліва зімой у пчальніку робяць шкоды; да гэтых перадусім належаць: сіняк, дзяцел і жаўна. Бацяны гэтак сама любяць пчоламі паласавацца,ня меньш яго і ластаўка. Але дзеля таго, што гэтыя самыя птушкі, зьядаючы арамадныя колькасьці шкоднай жамяры, прыносяць нам вялікую карысць, грэх зьяданьня пчолаў трэба ім выбачыць. Толькі зімуючыя на двары вульлі трэба ад птушак адпаведна забясьпечыць.

ПЫТАНЬНЕ: Я вычытала ў „Самапомачы“, што ў нас могуць расьці чырвонамясныя гарбузы або інакш кавуны і што з іх робяцца смачныя стравы; дзе можна дастаць іх насеньне? *С. Шыдлоўская.*

АДКАЗ: Гэта нейкае непаразуменьне. Перадусім *гарбуз* па лаціні Cucurbita pepo (расейс тыква, польскі — Дыня або Баня), гэта адно, а *кавун* лац. Cucumis citrullus, поль. кавон, рас. арбуз, гэта другое. Аб гадоўлі і ўжыткаваньні гарбуза знойдзеце ў Бел. Борці № 4—5 за 1936 год.

Кавун на ніякія стравы ды перапрацоўкі не надаецца, гэта папросту салодкі, даволі вадзяністы фрукт, які ядуць сырым. Апрача таго кавуны ў нас зусім не дасьпяваюць, а нават не завяжуцца, у інспэктах гэтак сама ня ўдаюцца. Паходзіць кавун з Афрыкі. Гадуецца цяпер у Італіі, Гішпаніі, у Вэнгрыі, у Заходніх Індыях, на Украіне, а ў Польшчы некаторыя больш вытрывалыя адмены садзяць у Галіччыне.

# Паштовая скрынка.

*Гр. Андрэю Барысэвічу.* Пробны № Бел. Борці высылаем і чакаем падпіскі.

*Гр. М. Галіцкаму.* Ад вас належыца складка толькі за бягучы 1937 год. Адрас перамяняем. За жычлівую раду шчыра дзякуем. Порцыю мэлісы вышлем, можна яшчэ і цяпер пасеяць. Выбачайце што гэтак позна, але асоба, ад якой гэта залежыць толькі цяпер аб Вашай просьбе даведалася.

*Гр. Павлу Кадушку.* Завочныя курсы па збору лекарскіх зёлак ужо Вам высланы.

*Гр. В. Вяршылоўскаму.* У гэтым № Б. Борці маеце спісак зёлак, на якія ёсьць запатрабаваньне і наагул адказы на ўсе Вашыя пытаньні. За збор бярэцеся сьмела і энэргічна. Мы ахвотна паможам па мэры нашай магчымасьці. Калі будуць, якія новыя весткі, паведамім Вас лістоўна. Значок на адказ атрымалі.

*Гр. І. Кулешу.* Пробны № Б. Б. высылаем. Чакаем падпіскі. Цэннік выслалі. Цэннік насеньня высылаем.

*Гр. Антону. Конаху.* Насеньне ўсялякае можна выпісаць праз рэд. Бел. Борці. Цэннік вышлем. Шмат чаго, асабліва з мядадаяў, цяпер у восені, трэба сеяць. Ліст Вас папаў да нас вельмі позна, дзеля гэтага і адказ такі спозьнены.

*Гр. В. Гледко.* Адказ лістоўны высланы Вам 10/VI-га. Чакаем весткі, ці Вы пачалі збор і чаго? У гэтым № Б. Б. маеце зноў спісак патрэбных зёлак.

*Г. П. Гапанёнку.* Шчыра дзякуем за ахвяру на фонд Бел. Борці.

Рэдагуе Рэдакцыйная калегія: Л. Войцікава, М. Манцэвіч, М. Караленка, А. Войцік.
Адказны Рэдактар і Выдавец: Л. ВОЙЦІКАВА.
Друк Вытворча-Гандлёвай Каапэратывы. Вільня, Троцкая вул. 7.

Выдавецтва ветліва просіць усіх прысьпяшыць з урэгуляваньнем залеглых складак, бо несваечасная прысылка грошай пазбаўляе нас магчамасьці акуратна выдаваць часапіс.

Дзеля гэтага пры гэтым № разсылаем блянк разрахунковага перказу, пры помачы якога грошы можна пераслаць дарма.